**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 23 (791) 4 чэрвеня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае













ISSN 2077-8023





*Фота Ул. Скрабатуна.*

**Вось яно і доўгачаканае лета! Канікулы!**

**Праграма «Свет дзяцінства – свет цудаў», прымеркаваная да Міжнароднага дня абароны дзяцей, прайшла 31 траўня з вялікім канцэртам дзіцячых танцавальных і вакальных груп на Цэнтральным пляцы г. Глыбокае.**

**Ламбада!!!**













## Браслаў адсвяткуе 950-гадовы юбілей!

**Горад жыве ў чаканні дня нараджэння, які ўрачыста і шырока адзначыць 6-7 чэрвеня.**

Юбілею будуць прысвечаны чарговыя "Браслаўскія світанкі". Гэта свята традыцыйнай культуры, якія пройдзе ў 48-й раз, але ўпершыню стане міжнародным. На імпрэзы прыедуць афіцыйныя дэлегацыі, вакальныя і танцавальныя калектывы з Беларусі, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Азербайджана, Індыі, Расіі, Польшчы.

Сваё майстэрства пакажуць больш 20 харавых калектываў Віцебшчыны. У зборным хоры выступіць небывалы лік удзельнікаў – 800 спевакоў!

На фэст "Меч Брачыслава" абяцаюць прыехаць каля дзесяці рыцарскіх клубаў з Беларусі і Прыбалтыкі. На Замкавай гары пройдуць камандныя баі, выступы музычных груп, здабыча агню старажытным спосабам, акрабатычнае шоў, шэсце на хадулях, узнагароджанне ўдзельнікаў, шэсце з паходнямі, салют. Пераможца бітваў атрымае меч Брачыслава.

*Паводле "СБ".*

## Ушацкі раён

# Пад асабісты кантроль

■ Станіслаў Раманчук.

**У цяперашніх рэаліях шмат якія надзённыя праблемы вырашаюцца аператыўней, калі імі пачынаюць займацца ўплывовыя ўпраўленцы.**

Да гонару старшыні ніжняй палаты беларускага парламента Уладзіміра Андрэйчанкі ён рэгулярна раз у квартал абавязкова сустракаецца з насельніцтвам і ва Ушацкім раёне. Падчас апошняга выязнога прыёму глава Палаты прадстаўнікоў спачатку пабываў на ўзводзімым у райцэнтры фізкультурна-аздараўленчым комплексе, пацікавіўся ходам дзіцячага сада № 4 і ўмовамі пражывання людзей у былым інтэрнаце райаграсервіса, які па ягонай просьбе перадалі камунальшчыкам. Таксама і кіраўнік Віцебскай вобласці Мікалай Шарстнёў пад асабісты кантроль узяў ход выканання работ па рэстаўрацыі мемарыяльнага комплексу "Прарыў", што ў 7 км ад Ушач. Старшыня аблвыканкама правёў чарговае выязное пасяджэнне штаба будоўлі, у якім удзельнічаў зноў знакаміты архітэктар, аўтар мемарыялу, а цяпер навуковы кансультант работ Юрый Градаў. У выніку абмеркавання было вырашана, што рэканструкцыю не будуць расцягваць, а правудзь яе за год, з тым каб 3 ліпеня будучага года комплекс "Прарыў" зноў атрымаў другое жыццё. Падлічана, што на рэканструкцыю пойдзе да 12 млрд. рублёў, а ў першую чаргу будуць па праекце заменены каркасы двух расколатых 11-метровых бетонных глыб, на месцы, дзе байцам 16 партызанскіх брыгад удалося вырвацца са смяртэльнай пасткі пры трохразовай пераваге ў жывой сіле 60-тысячнай нямецкай групоўкі войск. У ходзе работ з'явіцца сучасная падсветка велічнага помніка з музычным суправаджэннем экскурсій і падсветкай яго ноччу.

## Пастаўскі раён

# Гіблае месца

■ Кастусь Александровіч

**Чамусьці і на нашай зямлі ёсць мясціны, дзе часта адбываюцца розныя непрыемныя здарэнні.**

Вось і ў Паставах на адной з цэнтральных вуліц горада Чырвонаармейскай, якая да вайны называлася Глыбоцкай, таксама фіксуецца шмат выпадкаў з гібеллю маладых людзей. Спачатку там позняй ноччу глыбокай восенню жанчына-кіроўца на іншамарцы пры дрэннай бачнасці ў дождж збіла насмерць адразу чатырох старшакласніц. Яны вярталіся дамоў з дыскатэкі чамусьці не па тратуару і праігнаравалі перад гібеллю заўвагу праязджаўшай патрульнай машыны ДАІ. Потым на гэтай вуліцы ваеннаслужачы ноччу задушыў і скінуў у калодзеж маладую дзяўчыну і гэта злачынства доўга не ўдавалася раскрыць. Пару гадоў назад таксама пасярод ночы на падпітку ехалі на высокай хуткасці на аўто тры маладыя хлопцы і на хуткасці ўрэзаліся ў жылы дом, усе загінулі. I нават днём вадзіцель аўтабазы райпо на падпітку разбіў новую аўталаўку і таксама зляцеў з дарогі і моцна пашкодзіў драўляны дом. Днямі падобнае ДТЗ толькі цудам не прывяло да новых чалавечых ахвяр. Пад раніцу трое маладых людзей ва ўзросце 26, 24 і 21 гадоў, з аднаго жылога шматкватэрнага дома, у нецвярозым стане таксама вырашылі пракаціцца з вецяркам. На вялікай хуткасці самы старэйшы з іх вадзіцель не справіўся з кіраваннем, ударыўся ў дрэва, бардзюр. Іншамарку некалькі разоў крутанула і яна моцна пашкодзіла вугал хаты. На шчасце, машына была нямецкая моцная БМВ з падушкамі бяспекі, што і выратавала хлопцаў ад гібелі. Зараз усе трое з траўмамі, пераломамі, сатрасеннем мозгу патрапілі ў бальніцу, а вось легкавушка аднаўленню не належыць.

## Браслаўскі раён

# Гатэль услед за спортпляцоўкай

■ Чэслаў Якубовіч.

**Апошнім часам самы паўночны і азёрны горад краіны Браслаў стаў прыкметна абнаўляцца і прыгажэць.**

Да прафесійнага свята работнікаў фізкультуры і спорту ва ўрачыстай абстаноўцы на гарадскім стадыёне ў рамках міжнароднага праекта трансгранічнага рэгіёна Латвіі, Літвы і Беларусі адкрылі сучасную шматфункцыянальную спартыўную пляцоўку. Глава раёна Уладзімір Дранеўскі не толькі павіншаваў моладзь з гэтай падзеяй, але і ўручыў выхаванцам мясцовай ДЮСШ і спортклуба "Дрывяціч" патрэбны спортінвентар. Упрыгожваннем райцэнтра стаў і новы сучасны прыватны гатэльны комплекс "Прэстыж" па суседстве з адным з мясцовых азёр. У ім загадзя забраніравалі нумары для гасцей міжнароднага фестывалю мастацтваў "Браслаўскія зарніцы". Дагэтуль былы гандлёвы будынак па вуліцы Ленінскай працяглы час не выкарыстоўваўся, пакуль яго райпо не прадала прадпрымальным людзям. Новаму гаспадару спатрэбіліся 3 гады працы, каб давесці гасцінічны аб'ект да еўрапейскіх узроўняў камфорту. Акрамя ўтульных і зручных для пражываючых нумароў у "Прэстыжы" з'явіліся новы рэстаран з разнастайнай кухняй страў і прыгожа афармленай абедзенай залай. Сюды будуць прыцягваць адпачываючых не толькі ўпаўне даступныя цэны для людзей з сярэднім дастаткам, але і разнастайныя бунгала, як на заморскіх курортах. Гасцям райцэнтра можна будзе цудоўна адпачыць на пляжы, схавацца ў цяньку ў прыгожых альтанках у спёку, пакатацца на лодках і на катамаранах, не адыходзячы далёка ад гатэля. Упадабалі гэты аб'ект і жыхары горада, якія сталі заказваць правядзенне тут вяселляў, юбілееў, карпаратыўных вечароў адпачынку, а на чарзе адкрыццё яшчэ більярднай і караоке-залы.

# Аб самым надзённым

## ПРЫВІД МАСАВАГА БЕСПРАЦОЎЯ ЎСЁ БОЛЬШ БЛУКАЕ Ў РОЗНЫХ КУТКАХ БЕЛАРУСІ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Акрамя зніжэння заработных плат за год у 2 разы вырасла колькасць людзей, застаўшыхся без працы. Адначасова ў 5 разоў стала болей работнікаў, якія сталі працаваць толькі па некалькі дзён на тыдзень.**

I раней беларуская прадукцыя не асабліва актыўна прадавалася на знешніх заходніх рынках. Прызнаў гэта і сам А. Лукашэнка, выступаючы днямі на прайшоўшым у сталіцы VII з'ездзе Федэрацыі прафсаюзаў: "надо искать, где продать … мы не успели диверсифицировать наш экспорт, по-прежнему остались в России, Украине, Казахстане".

Канешне, раней наша краіна жыла крыху больш заможна, бо за граніцай нядрэнна раскуплялі беларускія калійныя ўгнаенні, металы, нафтапрадукты, пакуль сусветныя цэны на нафту былі высокія і Расія не ўвяла для нас высокія мытныя пошліны, а потым свае падатковыя манеўры, каб болей з нас валюты садраць.

А сёлета сітуацыя вакол айчыннай знешнеэканамічнай дзейнасці і ўвогуле з развіццём нашай занадта савецкай пасутнасці эканомікі ўсё больш пагрозліва набывае характар зацяжнога эканамічнага крызісу. Калі ў мінулым такое назіралася, што практычна цэлы год не расце ў Беларусі заработная плата. Яшчэ летась летам яна ў нас дасягала ў сярэднім 629 долараў, а пасля чарговай снежаньскай дэвальвацыі нацвалюты ў гэтым годзе вясной ўпала ўжо да 435 USD. Ужо маўчаць і пра дасягнуты валявым шляхам яшчэ да мінулых прэзідэнцкіх выбараў рубеж 500 долараў, які збіраліся да канца гэтай пяцігодкі падвоіць яшчэ.

У гэтым годзе па краіне і, асабліва на Віцебшчыне, узнікла новая бяда. Нават меншую зарплату, чым раней, яшчэ паспрабуй своечасова атрымай. У маі з гэтай праблемай ушчыльную сутыкнуліся працаўнікі 327 прадпрыемстваў і арганізацый, якім сума пратэрмінаванай запазычанасці па заробках вырасла з пачатку года да 206, 6 млрд. рублёў. У Беларусі зноў сталі расці велізарныя складскія запасы непрададзенай гатовай прадукцыі. Беларускага абутку, адзення, бытавой тэхнікі нашы фабрыкі і заводы нарабілі на 3-4, а то і больш, як той жа "Гомсельмаш" сваіх камбайнаў ледзь ці на цэлы год наперад, а збыць ніяк не могуць.

У выніку на такіх прадпрыемствах сталі людзей часцей адпраўляць на няпоўны працоўны тыдзень, або ў вымушаныя водпускі. У пачатку вясны ў такім рэжыме, па дадзеных статыстыкі, знаходзіліся ўжо каля 75 тысяч чалавек . Па гэтых прычынах на два тыдні спынялі галоўны канвеер нават флагманы індустрыі мінскія МТЗ і МАЗ. Адначасова і на іншых вытворчасцях сталі прымяняць такую непапулярную меру, як скарачэнне штатаў, хоць гэта масава не дазваляецца. На фоне спада прамысловай вытворчасці ў I-м квартале на 7,3 % было скарочана больш 13 тысяч чалавек, стала расці беспрацоўе, бо яшчэ пачалі кампанію супраць дармаедаў. Акрамя зніжэння заработных плат за год у 2 разы вырасла колькасць людзей, застаўшыхся без працы. Адначасова ў 5 разоў стала болей работнікаў, якія сталі працаваць толькі па некалькі дзён на тыдзень.

А кіраўніцтва краіны, прафсаюзныя лідары заклікаюць працоўны клас цярпець і любой цаной пастарацца захаваць працоўныя калектывы. Таксама беларускі лідар даручыў стварыць паўсюдна прафсаюзныя арганізацыі, нават і прыватнай формы ўласнасці. Калі ж там стануць гэта даручэнне ігнараваць, то і на іх паабяцалі знайсці ўправу. Прэзідэнт наконт звольненых таксама выказаўся, што такім людзям павінны будуць адшукаць іншыя месцы на сваім прадпрыемстве. Вось толькі зрабіць гэта будзе вельмі няпроста, паколькі новую работу становіцца знайсці складана, у малых гарадах - увогуле праблематычна.

На гэтым фоне эканамічная цяжкасці паўсюдна толькі павялічваюцца і невыпадкова прыктычна нідзе апошнім часам не праводзілася індэксацыя заробкаў. Глава дзяржавы не сумняваецца, што беларусы будуць трымацца за свае працоўныя месцы. I гэта, сапраўды так, бо людзі нутром адчуваюць узнікшыя вытворчыя праблемы, складаную эканамічную сітуацыю. Зараз дакладна цяжка падлічыць, хто з 4 млн. чалавек рабочай сілы ў Беларусі заўтра апынецца лішнім на рынку працы. Праўда, ва ўрадзе паабяцалі падтрымаць пэўную колькасць важных для краіны праблемных прадпрыемстваў. Банк развіцця падставіў плячо гаротнаму апошнім часам "Гомсельмашу", яго тэхніку вырашана па льготных крэдытах прадставіць фермерскім гаспадаркам.

Аднак дасведчаныя спецыялісты сцвярджаюць, што з цяперашняга 1 % афіцыйнага ўзроўню беспрацоўя яго ўзровень у нас можа перавысіць неўзабаве пакасных 5 %. I беларусам прыйдзецца да новых рэалій прывыкнуць, прыстасавацца. Да таго ж у суседняй з намі Расіі і асноўнага рынку збыту айчынных тавараў узровень беспрацоўя зараз ужо перавысіў 6 %. У Еўропе ён яшчэ вышэйшы, больш 10 %, а ў праблемных Грэцыі, Іспаніі без працы чвэрць працаздольнага насельніцтва, там сяпод моладзі кожны другі на радзіме не можа знайсці прымянення сваім сілам і здольнасцям. У любым выпадку большасці з нас у бліжэйшы час будзе няпроста жыць. Аднак да прэзідэнцкіх выбараў урад з банкамі пастараюцца зрабіць усё магчымае, каб сітуацыя з занятасцю насельніцтва істотна не пагоршылася.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 04.06.15 | | | | Пятніца 05.06.15 | | | | Субота 06.06.15 | | | | Нядзеля 07.06.15 | | | | Пан. 08.06. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +14 | +13 | +18 | +16 | +11 | +13 | +18 | +16 | +10 | +16 | +21 | +20 | +16 | +20 | +26 | +22 | +17 | +15 | +19 |
| Ціск | 747 | 750 | 752 | 752 | 754 | 757 | 757 | 756 | 757 | 759 | 758 | 755 | 755 | 755 | 755 | 753 | 753 | 754 | 754 |
| Вільготнасць | 55 | 63 | 41 | 45 | 65 | 67 | 44 | 52 | 77 | 66 | 46 | 55 | 58 | 61 | 40 | 60 | 79 | 83 | 43 |
| Вецер м/сек | 4 З | 6 З | 7 З | 3 Пн-З | 2 З | 2 Пн-З | 2 Пд-З | 1 Пн | 1 Пд | 2 Пд | 3 Пд | 3 Пд | 5 Пд | 6 Пд-З | 6 Пд-З | 2 Пн-З | 2 Пн-У | 1 Пн-У | 2 Пн-З |

## Дзень за днём

**З пачатку года экспарт беларускіх тавараў знізіўся на 30 %, а ў Расію і Украіну – яшчэ болей. МВФ заклікаў урад Беларусі прыняць і ажыццявіць смелую праграму рэформ. Ва ўрадзе паабяцалі не павышаць цэны на харчаванне, тарыфы на транспарт і сувязь. У параўнанні з мінулым годам ВУП Беларусі знізіўся на 2,6 %, складскія запасы дасягнулі амаль 40 трыльёнаў рублёў (84,6 % сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці). З-за крызісу ў Мінску пабудавалі жылля на чвэрць меней, чым год назад.**

# Важнейшыя навіны свету

**Турцыя.** Міністр энергетыкі і прыродных рэсурсаў Т. Йылдыс пацвердзіў, што краіна не будзе ўдзельнічаць у будаўніцтве марскога праекта "Газпрама" "Турэцкі паток".

**Германія.** Deutsche Bank стварыў рабочую групу па пераносе значнай часткі аперацый банка з Англіі на радзіму ў выпадку выхаду брытанцаў з ЕС пасля рэферэндуму.

**Францыя.** У МЗС краіны заявілі аб удзеле элітных расійскіх снайпераў, агентаў іх спецслужб у забойствах летась зімой пратэстуючых на Майдане ў Кіеве.

**Польшча.** У другім туры прэзідэнцкіх выбараў перамог кандыдат ад апазіцыйнай партыі "Права і справядлівасць" 43-гадовы Анджэй Дуда, ён паабяцаў знізіць пенсійны ўзрост.

**Бельгія.** Глава НАТО Й. Столтэнберг для рэалізацыі мінскіх пагадненняў заклікаў Расію адмовіцца ад ваеннай падтрымкі баевікоў самаабвешчаных "ДНР і ЛНР".

**Расія.** Дэпутат Заканадаўчага сходу Санкт-Пецярбурга Б. Вішнеўскі заявіў, як подла і агідна Мінабароны РФ адмовілася ад двух сваіх ваенных, як толькі яны сталі палоннымі.

**ЗША.** Дзярждэпартамент пацвердзіў, што ў амерыканцаў і ў НАТО няма планаў па размяшчэнні кампанентаў супрацьракетнай абароны на тэрыторыі Украіны.

**Македонія.** У краіне пашырыліся акцыі пратэсту за адстаўку прарасійскага ўрада, які за 9 гадоў давёў эканоміку да стагнацыі, а ўзровень беспрацоўя перавысіў 30 %.

**Расія.** РФ болей не будзе, як заявіў міністр эканомікі А. Улюкаеў, блакіраваць пагадненне аб асацыяцыі Украіны з ЕС, якое пачне дзейнічаць з 1 студзеня 2016 года.

**Чэхія.** Хоць працэдуру ратыфікацыі пагаднення аб асацыяцыі Украіны з ЕС падтрымалі 17 краін, фракцыя з 30 камуністаў заблакавала пакуль гэта пытанне ў парламенце.

**Латвія.** На саміце Усходняга партнёрства ЕС у Рызе Беларусь з Арменіяй не падпісалі выніковую дэкларацыю з-за фразу ў ёй пра "незаконную анексію Крыма Расіяй".

**Ірак.** Баевікі "Ісламскай дзяржавы" пасля захопу горада Рамадзі ў 105 км ад Багдада сталі забіваць прыхільнікаў урада, паліць і рабаваць іх дамы, 25 тысяч людзей сталі ўцекачамі.

**Казахстан.** Ад невядомай інфекцыі, як пацвердзілі ўлады, на поўначы краіны за тыдзень памерлі яшчэ больш 10 тысяч галоў вымірaючага віду антылоп сайгакаў.

**Расія.** За апошніх 5 гадоў пры запусках ужо 6-ая па ліку расійская недасканалая ракета-носьбіт "Пратон" пацярпела крушэнне, рускім прыйдзецца ад іх зусім адмовіцца.

**Іспанія.** Спецыялісты фірмы Vortex Bladeless распрацавалі ветраэнергагенератары без лопасцей у форме слупкоў, яны меней шумяць, не забіваюць птушак і больш танныя.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Беларусі прыйдзецца прыняць, як адзначыў вядомы эканаміст С. Чалы, прапановы МВФ аб сур'ёзных рэформах, інакш краіну чакае яшчэ больш цяжкая сітуацыя, чым цяпер

**Абчак.** Амерыканскі аўтаканцэрн GM пасля зыходу з Расіі пачаў выпуск сваіх аўто Opel Mokka і машын прэміум-класа на базе магутнасцей ЗАТ "Юнісон" пад Мінскам.

**Мінск.** Экс-глава Нацбанка С. Багданкевіч папярэдзіў, што знешні дзяржаўны доўг Беларусі перавысіў 41 мільярд долараў (55,4% ВУП), неўзабаве могуць спыніцца шмат прадпрыемстваў.

**Гродна.** Задоўга да адкрыцця гарадскога цэнтра занятасці людзі сталі займаць чэргі на прыём, штодзень тут цяпер рэгіструюць па 35-40 новых беспрацоўных.

**Мінск.** Дзяржаўны сакратар Савета Бяспекі А. Мяжуеў на круглым стале заявіў, што калі, не дай Бог, на мяжы Беларусі з'явяцца "зялёныя чалавечкі", іх адразу тут знішчаць.

**Брэст.** На блок-посце пры выездзе з Лісічанска затрымалі двух жыхароў вобласці ва ўзросце 34 і 37 гадоў, якія нелегальна ехалі ў Данбас ваяваць, каб зарабіць грошай.

**Баранавічы.** На ферме "Кіясялі" ТАА "АграСэрвісСтандарт" здарыўся ўнікальны выпадак, там адна з кароў парадзіла трох здаровых бычкоў і цялушачку.

**Слонім.** Да 5 гадоў турмы пагражае былому дырэктару мясцовай птушкафабрыкі, які падманам набраў у банку столькі крэдытаў, за якія яна не можа разлічыцца.

**Бабруйск.** Суд раёна на пасяджэнні вызваліў з-пад варты былога генеральнага дырэктара дрэваапрацоўчага ААТ "Фандок" У. Майко за адгрузку фанеры ў РФ па нізкай цане.

**Мінск.** У цяперашняй сітуацыі ў свеце, як заявіла пісьменніца Святлана Алексіевіч, Беларусь можа выратавацца, павярнуўшыся ў бок Еўропы, нам патрэбна аб'ядначая ідэя.

**Брэст.** На пункце пропуску "Казловічы" падчас дагляду фуры ў кабіне цягача "МАН" службовая сабака знайшла марыхуану, вадзіцеля-брэстчаніна арыштавалі.

**Лельчыцы.** Больш за 200 пажарных і авіяцыя міністэрства надзвычайных сітуацый былі прыцягнуты для тушэння буйнога лясного пажару на плошчы 15 гектараў на тэрыторыі раёна.

**Гомель.** Суд пакараў гараджаніна 8,5 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці, які падмануў больш 60 чалавек на амаль 0,5 млн. долараў, пастаўляючы іншамаркі з-за граніцы.

**Брэст.** На паркеце спорткомплексу "Вікторыя" жаночая зборная Беларусі па валейболе перамагла ўкраінак і ўжо ў сёмы раз прабілася гуляць у фінал чэмпіянату Еўропы.

## У Беларусі будзе выключана магчымасць з'яўлення ў жыроўках неабгрунтаваных плацяжоў




■ БЕЛТА

У Беларусі будзе выключана магчымасць з'яўлення ў жыроўках неабгрунтаваных плацяжоў. Пра гэта сёння заявіў намеснік прэм'ерміністра Анатоль Калінін у ходзе сумеснага пасяджэння Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі, перадае карэспандэнт БЕЛТА.

У мэтах удасканалення парадку цэнаўтварэння на паслугі ЖКГ урадам прадугледжана жорсткае нармаванне ўсіх складнікаў сабекошту паслуг, сказаў віцэ-прэм'ер. «Распрацавана і ўкаранёна праграмнае забеспячэнне адзінай інфармацыйнай сістэмы па ўліку, разліку і налічэнні платы за паслугі ЖКГ. Пасля паўсюднага ўкаранення адзінай праграмы будзе выключана магчымасць уключэння неабгрунтаваных плацяжоў у паведамленні на аплату камунальных паслуг», - падкрэсліў Анатоль Калінін. Усе разлікі па паслугах ЖКГ будуць праводзіцца разлікова-даведачнымі цэнтрамі ў АРІП, дадаў ён.

Віцэ-прэм'ер закрануў таксама тэму неўласцівых паслуг, якія выконваюць арганізацыі ЖКГ. «Выкананне і аплата работ, звязаных з аказаннем неўласцівых паслуг, павінна ажыццяўляцца толькі на дагаворнай аснове з кампенсацыяй панесеных затрат», - лічыць віцэ-прэм'ер. Жыллёва-эксплуатацыйная арганізацыя павінна займацца эксплуатацыяй толькі жылога дома, вонкавыя інжынерныя сеткі павінны быць перададзены арганізацыям - пастаўшчыкам паслуг, дадаў ён.

## Мінсельгасхарч атрымае ад ЕС 1,5 млн еўра для барацьбы з хваробамі дзікіх жывёл

■ БелаПАН

**Мінсельгасхарч атрымае ад Еўрасаюза 1,5 млн еўра для барацьбы з хваробамі дзікіх жывёл на працягу 2015 года.**

Адпаведныя пагадненні з Дзяржаўнай службай харчавання і ветэрынарыі Літвы і Харчова-ветэрынарнай службай Латвіі падпісаныя 26 мая ў беларускім пасольстве ў Францыі.

«Супрацоўніцтва паміж ветэрынарнымі ведамствамі Беларусі, Латвіі і Літвы ў пытаннях барацьбы з хваробамі дзікіх жывёл працягваецца ўжо пяць гадоў і мае свае станоўчыя вынікі, якія выяўляюцца ў зніжэнні колькасці выпадкаў захворвання на шаленства дзікіх жывёл на тэрыторыі Беларусі», — заявіў намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Васіль Півавар, якога цытуе пасольства.

Півавар прыбыў у Парыж на чале беларускай дэлегацыі для ўдзелу ў 83-й Генеральнай сесіі Міжнароднага эпізаатычнага бюро, якая праходзіла з 25 па 29 мая.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Начальнік Беларускай чыгункі У. Марозаў пацвердзіў, што з калегамі з Латвіі і РФ пачаліся перамовы аб пуску электрычак са Смаленска на Даўгаўпілс і Рыгу.

**Браслаў.** Жыхароў раёна і суседніх Мёрскага, Верхнядзвінскага парадавала, што Беларусь з Латвіяй яшчэ больш спросцяць малы прыгранічны рух, аблегчыцца парадак паездак.

**Бешанковічы.** На свінакомплексе правялі 5-ю, заключную біяпробу пагалоўя, сюды ўжо закупілі 2 тысячы галоў маладняка, абуладкавалі 3 матачнікі парод ландрас, дзюрок.

**Наваполацк.** Фірма дзвярэй для пад'ездаў "Белсплат" заказала праект будаўніцтва новага вытворчага корпуса і пачала аднаўленне закінутага прафілакторыя на беразе Дзвіны.

**Віцебск.** Следства выявіла, што 21-гадовы студэнт ветакадэміі зімой забіў свайго суседа па пакоі ў інтэрнаце толькі за тое, што той не аплаціў рахунак за адпачынак у кафэ.

**Глыбокае.** Суд раёна пакараў былога прадаўца райпо за прысваенне 60 млн. рублёў канфіскацыяй маёмасці і абмежаваннем волі на 3 гады без накіравання на "хімію".

**Полацк.** У мясцовым дзяржуніверсітэце ў адным з карпусоў былога іезуіцкага калегіума зноў з'явілася механічная галава, якая можа адказаць на любыя пытанні на любой мове.

**Орша.** Следчы камітэт завёў крымінальную справу супраць 25-гадовага гараджаніна, які ў сваім доме арганізаваў наркалабараторыю і вырошчваў і сушыў у пакоі марыхуану.

**Гарадок.** Каля аграрнага каледжа затрымалі з нажом прыехаўшага п'янага 30-гадовага вяскоўца-рэцыдзівіста, які прыехаў разабрацца з былой сужыцелькай, напаў на студэнта.

**Віцебск.** Глава вобласці М. Шарстнёў прыняў Апостальскага нунцыя ў Беларусі арцыбіскупа Клаўдзіо Гуджэроцці і выказаўся ўмацоўваць сяброўства з Ватыканам.

**Паставы.** На папулярным для адпачынку ў гараджан возеры Дубок работнікі лясгаса зрабілі і ўстанавілі 6 прыгожых новых і розных па памерах і канфігурацыях альтанак.

**Браслаў.** Раніцай у возеры каля вёскі Опса па невядомых прычынах утапіўся ў 10 метрах ад берагу мясцовы 65-гадовы жыхар, хоць глыбіня вадаёма тут толькі 1,5 метра.

**Наваполацк.** Экспертыза пацвердзіла, што 46-гадовы гараджанін, які зімой задушыў сваю жонку, псіхічна хворы і пакутуе формай шазафрэніі, яго ізалююць ад грамадства.

**Орша.** Паблізу вёскі Чэрвіна раніцай 30-гадовы кіроўца BMW-528 пры выездзе з другаснай дарогі не прапусціў трактар і быў паранены, загінула яго пасажырка 17 гадоў.

**Віцебск.** Адзіную ў свеце шакаладную копію карціны Марка Шагала "Закаханыя", якую выканала мастак-дызайнер Таццяна Голубева, паказалі ў абласным цэнтры.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Паставы запрашаюць на СВЯТА ПРЫГАЖОСЦІ І РАДАСНЫХ СУСТРЭЧ

**Праграма XVIII Міжнароднага фестывалю народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік", 12-14 чэрвеня 2015 года, г. Паставы.**



**12 чэрвеня (пятніца)**

**11.00 – 13.00** Літаратурнае свята "Мая зямля, мая Радзіма завецца светла – Беларусь".
*Канцэртная зала па вул. Чырвона армейскай.*
**15.00** Адкрыццё фотавыставы "Горад. Гісторыя. Людзі".
*Выставачная зала Лома рамёстваў.*
**10.00 – 12.00** Спартыўныя спаборніцтвы.
*Гарадскі стадыён.*
**19.00 – 20.30** Канцэрт творчых калектываў Смаленскага дзяржаўнага інстытута мастацтваў (Расія).
*Палац культуры па вул. Станкевіча.*
**21.00 – 24. 00** Маладзёжная акцыя "Мой горад. Мая краіна".
*Гарадскі парк.*

**13 чэрвеня (субота)**

**13.00 – 14.00** Прэс-канферэнцыя з кіраўнікамі дэлегацый, членамі аргкамітэта, прадстаўнікамі СМІ. Цырымонія ўзнагароджання.
*Зала пасяджэнняў райвыканкама.*
**14.00 – 20.00** "Горад майстроў" з удзелам народных майстроў Віцебскай вобласці.
*Плошча імя Леніна.*
**16.00 – 20.00** "Пастаўшчына гасцінная". Агляд-конкурс сельскіх панадворкаў.
*Плошча імя Леніна.*
**15.00 – 18.00** Традыцыйны конкурс калектываў і асобных выканаўцаў на народных інструментах "Хто каго?"
*Палац культуры па вул. Станкевіча.*
**17.30 – 18.30** Тэатралізаванае прадстаўленне "Музыка беларускіх палацаў і сядзіб" з удзелам народнага ансамбля старадаўняй музыкі "Віаліна".
*Усходні фасад Палаца Тызенгаўзаў.*
**20.00 – 21.30** Урачыстае адкрыццё фестывалю "Юбілейны фестываль збірае сяброў".
*Плошча імя Леніна.*
**21.30 – 23.00** Пралог "Моладзь вітае фестываль". Музычна-тэатралізаванае прадстаўленне "Пастаўскі баль".
*Плошча імя Леніна.*
**23.00 – 24.00** Канцэрт салістаў "Тэатра песні Ірыны Дарафеевай".
*Плошча імя Леніна.*




**24.00** Святочны феерверк.
*Плошча імя Леніна.*
**00.15 – 02.00** Забаўляльная праграма для моладзі з удзелам лепшых дыджэяў Віцебскай вобласці.
*Плошча імя Леніна.*

**14 чэрвеня (нядзеля)**

**9.30 – 11.00** Канцэрт класічнай музыкі.
*Касцёл св. А. Падуанскага.*
**10.00 – 15.00** Выстава-продаж вырабаў народных майстроў Віцебскай вобласці.
*Гарадскі парк.*
**11.00 – 11.30** Падпісанне дагавора аб пабрацімскіх сувязях.
*Зала пасяджэнняў райвыканкама.*
**11.30 – 12.00** Канцэрт ваеннага духавога аркестра Смаргонскай пагранічнай групы.
*Плошча імя Леніна.*
**12.30 – 13.00** Тэатралізаванае шэсце ўдзельнікаў і гасцей фестывалю.
*Плошча імя Леніна – гарадскі парк.*
**13.00 – 15.00** Урачыстае адкрыццё памятнага знака, прысвечанага гарадам-пабрацімам. Заключны гала-канцэрт лаўрэатаў і пераможцаў XVIII Міжнароднага фестывалю народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік".
*Гарадскі парк.*
**15.00 – 16.00** Канцэрт Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча.
*Гарадскі парк.*

# Ці ўжо так народ наш выйшаў з даверу, што пакласціся на яго нельга?

Я, зразумела, не буду скардзіцца на тое, што мне, асабіста, у Глыбокім няма дзе піва папіць. Захачу папіць – куплю ў краме, дома пап'ю. Мала? Яшчэ схаджу!

Аднак у нас, у Глыбокім, рэальна, ёсць толькі адно месца, дзе можна вольна папіць разліўнога піва – кавярня "Сузор'е" на аўтастанцыі. Праўда, можна яшчэ і ў рэстаране. Гады тры таму зайшоў у "Бонус"...

– Піва можна папіць?– пытаю.

– Мужчына, а вы ведаеце: колькі ў нас каштуе піва?– пытаннем на пытанне адказала дзяўчына за барнай стойкай.

Знайшліся б і на іхнія кошты ў мяне грошы... Але, ужо сама такая пастаноўка пытання – адбіла ўсю ахвоту пачаставацца гэтым халодным напоем у спякотны летні дзень.

Вось вам, спадарства, здымак Старога Мяста ў Варшаве, які аўтар зрабіў у мінулую пятніцу. Пі ты там тое піва, хоць залійся. У самым людным месцы! На фоне касцёлаў! Ды й, наогул, на кожным рагу ў Варшаве стаяць парасоны з лагатыпамі назваў піва.

Прыбралі ў Глыбокім парасоны і "шалашы", дзе прадавалася на розліў піва... І што? Народ перастаў яго піць? Не! Пайшлі маладзёны ў краму, купілі кожны па 2 літры "Крыніцы" моцнай. Выпілі. Пустыя бутэлькі – у возера!

Прайшоўся нядаўна па новай набярэжнай ля Капітанскай горкі... Жах!!! Столькі піўных бутэлек у некалькі ярусаў боўтаецца ля самага берага! І хто гэта цяпер будзе прыбіраць? Дык можа, усё ж, лепш бы пілі тое піва пад парасонамі?

*Уладзімір Скрабатун.*

# У Полацку знайшлі пячатку Еўфрасінні Полацкай

**Старадаўнюю актавую пячатку Еўфрасінні Полацкай знайшлі на раскопках Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра ў Полацку, паведамілі ў райвыканкаме.**

Напярэдадні святкавання Дня горада Полацка і Дня памяці Еўфрасінні Полацкай (5 чэрвеня) на тэрыторыі Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра завяршыліся раскопкі, у якіх прымалі ўдзел як беларуская, так і расійская навукоўцы. Яны і выявілі ўнікальны артэфакт.

«Гэтая знаходка чарговы раз падкрэслівае значнасць і ўнікальнасць асобы святой і сведчыць пра тое, што манастыр у XII ст. быў не толькі буйным духоўным і культурным, але і грамадска-палітычным цэнтрам, дзе актыўна вялася перапіска, і Еўфрасіння Полацкая змацоўвала дакументы сваёй пячаткай», — падкрэслілі ў райвыканкаме.

Плануецца, што знаходка будзе дададзена ў экспазіцыю сценапісу, знятага са сцен Спаса-Праабражэнскага храма ў Мастацкай галерэі Полацка.

Прэзентацыя артэфакта адбудзецца ў Мастацкай галерэі 4 чэрвеня ў 10.00. Пячатка будзе экспанавацца тут цягам 4 дзён (4, 5, 6, 7 чэрвеня).

*БелТА*




# Беларусы да канца года будуць кампенсаваць 40% кошту камунальных паслуг

**Пры гэтым некаторыя паслугі ЖКГ беларусы будуць аплачваць цалкам.**

Беларусы да канца 2015 года будуць кампенсаваць 40% кошту паслуг ЖКГ. Пра гэта сёння журналістам заявіў намеснік прэм'ер-міністра Анатоль Калінін. Закрануў віцэ-прэм'ер і іншыя пытанні, якія тычацца сферы камунальных паслуг у краіне.

Віцэ-прэм'ер мяркуе, што ўзровень кампенсацыі выдаткаў у 40% – гэта дастаткова высокая доля. Паводле некаторых пазіцый, напрыклад у энергазабеспячэнні жылога фонду, насельніцтва ўжо выплачвае больш за 80% выдаткаў, а да канца года плануецца выйсці прыкладна на 100% кампенсацыі, паведамляе БелТА.

– *Мы не ставім мэту дасягнуць такога паказчыка ва ўсіх паслугах. Напрыклад, цеплазабеспячэнне – гэта досыць затратны механізм,* – падкрэсліў Анатоль Калінін.

Віцэ-прэм'ер таксама паведаміў, што ў Беларусі рыхтуецца праект дакумента аб безнаяўных субсідыях на ЖКП для грамадзян з нізкімі даходамі.

– *Кіраўніку дзяржавы рыхтуем праект указа, хочам унесці і абмеркаваць пытанне безнаяўных жыллёвых субсідый. Цяпер субсідуецца галіна жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Мы хочам перайсці на субсідаванне грамадзяніна або карыстальніка жылым памяшканнем,* – растлумачыў віцэ-прэм'ер.

Са слоў Анатоля Калініна, укараніць сістэму безнаяўных жыллёвых субсідый, стварыць механізм абароны грамадзян з нізкімі даходамі плануецца да 2016 года.

– *Такім чынам, мы зможам рабіць больш рашучыя крокі ў гэтым плане. Але на сёння ўрад не разглядае значных пераўтварэнняў у сферы тарыфнай палітыкі жыллёва-камунальных паслуг,* – падкрэсліў віцэ-прэм'ер.

Паводле планаў уладаў, да 2017 года насельніцтва павінна цалкам аплачваць выдаткі камунальнікаў на аказанне жыллёва-камунальных паслуг. Цяпер беларусы кампенсуюць блізу 30% кошту паслуг ЖКГ.

# Падарожжа ў Чыгірын – першую сталіцу незалежнай Украіны

**Зараз Чыгірын невялікі гарадок у Чаркаскай вобласці Украіны. А калісьці слава пра гэты горад ішла далёка за межы Украіны.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*




**Скульптура Багдана Хмяльніцкага ў музеі.**

Менавіта тут была рэзідэнцыя гетмана Багдана Хмяльніцкага, якога шмат хто ва Украіне лічыць кіраўніком першай незалежнай украінскай дзяржавы.

Зараз тут створаны музей гетмана украінскай дзяржавы, вядзецца рэстаўрацыя будынкаў, якія стаялі тут у часы Хмяльніцкага. На гары, якую называюць Замкавай, або Багданавай, усталяваны высокі помнік гетману, які ўзвышаецца над усім наваколлем.

Адраджэнне культу Багдана Хмяльніцкага пачалося тут з 2005 года, калі ў выніку Памаранчавай рэвалюцыі да ўлады прыйшоў прэзідэнт Віктар Ющчанка. У гады яго кіравання тут быў створаны музей Багдана Хмяльніцкага, дарэчы, адзіны ў свеце, пачалося аднаўленне Чыгірынскай крэпасці.

Але ў 2010 годзе да ўлады прыйшоў Віктар Януковіч, і працы былі спыненыя. Прычына да банальнасці простая – няма грошай. Вось на залатыя батоны ды ўнітазы сродкі былі, а на гісторыю – не! Вельмі падобна і на нашу сітуацыю: з якой прапановай ні звярніся да ўладаў – няма сродкаў. А як свае дамы будаваць – сродкі заўсёды ёсць.

Зараз працы ў Чыгірыне таксама спыненыя – ідзе вайна. Але ўсё ж ёсць надзея, што яна не будзе ісці вечна, і рэстаўрацыя ў Чыгірынскай крэпасці працягнецца.

Зараз Чыгірын – невялічкі райцэнтр з насельніцтвам менш за 10 тысяч чалавек. Моладзь адсюль з'язджае ў вялікія гарады: Кіеў, Харкаў, Днепрапятроўск, Адэсу... У горадзе маладыя людзі амаль не застаюцца. Тым не менш горад развіваецца, сюды прыязджаюць экскурсіі, каб набрацца ўкраінскага духу, цвёрдасці характару.

Размаўляючы з людзьмі, разумееш, што гэты народ вытрымае ўсе цяжкасці і ўвальецца ў сям'ю еўрапейскіх народаў. Амаль у кожнай сям'і нехта служыць у зоне антытэрарыстычнай аперацыі – муж, бацька, сын, пляменнік... У людзей вялікі патрыятычны ўздым, паўсюль збіраюцца сродкі на армію, нягледзячы на заявы расійскага тэлебачання, ад службы ў войску амаль ніхто не ўхіляецца.

Вядома, у народа шмат пытанняў да свайго кіраўніцтва, але зараз усе разумеюць, што трэба аб'яднацца для будучыні незалежнай і вольнай Украіны. Тым больш, што энергетыка гэтага месца спрыяе...



**Помнік Багдану Хмяльніцкаму на Замкавай гары.**

Яшчэ адзін брэнд горада – варэнікі з грэцкай мукі, якія ўмеюць гатаваць толькі тут. Аўтару давялося іх паспрабаваць – сапраўды смачна і сытна. Пад'еўшы такіх варэнікаў, казакі ў свой час маглі шмат часу праводзіць у паходах і змагацца з ворагам.

Непадалёк ад Чыгірына знаходзіцца сяло Суботаў, дзе размяшчалася радавое гняздо багдана Хмяльніцкага. Менавіта тут знаходзіцца Ільінская царква, якая пабудавана на сродкі Багдана Хмяльніцкага. У гэтай царкве і быў пахаваны легендарны гетман. Праўда, зараз цела гетмана ў царкве няма. Наконт гэтага існуюць дзве версіі. Па першай, цела гетмана было выкапана палякамі, спалена і попел быў развеяны ў наваколлі. Па другой, цела гетмана выкапалі і схавалі самі казакі. Украінскія гісторыкі, а таксама мясцовыя жыхары вераць у другую версію. На гэта ёсць некалькі меркаванняў, асноўнае з якіх – ну не маглі казакі дапусціць, каб над целам легендарнага гетмана маглі здзекавацца ворагі.

Царква зараз дзеючая, тут стараюцца заключаць шлюбы, хрысціць сваіх дзяцей знакамітыя людзі Украіны. Праўда, распавядаюць мясцовыя жыхары, камуністы хацелі ўзарваць гэтую царкву, нават выбухоўку паспелі закласці. Але святыню ўдалося выратаваць.

Таму застаецца спадзявацца, што і ўкраінскую дзяржаву ўдасца выратаваць. Патрыятызм простых людзей дае ўсе шанцы на гэта спадзявацца. Украіна вытрымае ўсе цяжкасці і стане багатай і вольнай краінай. А вось колькі часу будзе патрэбна, каб наладзіць стасункі са "старэйшым" братам, прагназаваць не бярэцца ніхто. Вось так памылкі палітыкаў становяцца лёсавызначальнымі ў жыцці цэлых народаў.



**Іканастас Ільінскай царквы.**



**Крым – наш! Так сцвярджае карта, якая намаляваная на асфальце ў Чыгірыне перад пад'ёмам на Багданаву гару.**

# У Чаркаскай вобласці расце адзін з самых старых дубоў Украіны і Еўропы

**Узрост дрэва па розных ацэнках налічвае ад 1000 да 1200 гадоў.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*



Дуб расце ў маляўнічай мясцовасці на ўскраіне сяла Буда Чыгірынскага раёна Чаркаскай вобласці. Гэта дрэва адно з самых старэйшых ва Украіне, а таксама ўваходзіць у дзясятку самых старых дрэваў Еўропы. Крону дрэва могуць абняць, узяўшыся за рукі, дзевяць дарослых чалавек.

Пад кронай гэтага дуба адпачывала шмат вядомых гістарычных асоб: Багдан Хмяльніцкі, Тарас Шаўчэнка, Севярын Налівайка... Але назву дрэва атрымала ад Максіма Залізняка, правадыра атрада гайдамакаў.

Вышыня дуба Залізняка складае 24 метры, у яго ствол шэсць разоў траплялі маланкі.

Нават цяжка ўявіць, колькі падзей пранеслася з таго часу, калі парастак дуба з'явіўся на свет. Падобна на тое, што пад гэтым дрэвам язычнікі адпраўлялі свае абрады. Тут закопвалі трупы ахвярных жывёлаў.

Дарэчы, напрыканцы дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя дуб стаў чахнуць і сохнуць. Адмыслоўцы доўга не маглі зразумець прычыну хваробы волата. Потым да дрэва прывезлі вельмі старога лесніка, які, пахадзіўшы вакол дрэва, паказаў, у якіх месцах трэба закапаць трупы кароў і коней. У выніку каранёвая сістэма дуба атрымала неабходныя арганічныя рэчывы і дрэва стала ажываць прама на вачах. Дуб-волат і дагэтуль пладаносіць і раскідвае навокал свае жалуды.

Не так даўно альпіністы ўмацавалі галіны дуба спецыяльнымі расцяжкамі, каб дрэва радавала сваім жыццём і наступныя пакаленні. Раней да дуба можна было свабодна падысці, лічылася, што, абняўшы велікана, можна набрацца жыццёвых сілаў. Але глеба вакол дрэва пастаянна абтапталася, і адмыслоўцы вырашылі, што гэтым можна нанесці шкоду дубу-волату. Таму зараз яго абгарадзілі невялікім плотам. Але жадаючыя набрацца сілаў ад велікана ўсё роўна знаходзяцца.

Мясцовыя жыхары лічаць дуб Максіма Залізняка сімвалам стойкасці ўкраінскага народа і маюць надзею, што яны пераадолеюць усе цяперашнія цяжкасці і пабудуюць вольную незалежную Украіну.

# За незаконны вылаў рыбы можна атрымаць 6 гадоў турмы

## Ці варта рызыкаваць?



**Для аматараў рыбалкі з лодак паведамляем, што з 9 чэрвеня на тэрыторыі Віцебскай вобласці дазволена лоўля рыбы з плаўсродкаў, а таксама перамяшчэнне на маламерных судах па вадзе.**

■ **Аляксей Протас**, *начальнік Глыбоцкай раённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Усе плаўсродкі павінны быць абавязкова зарэгістраваныя, і яны павінны прайсці тэхагляд. Таксама дазваляецца выкарыстоўваць усе віды дазволеных для лоўлі рыбы прылад: вуд, донак, кружкоў у колькасці да 5 кручкоў, пры наяўнасці білета паляўнічага і рыбалова – да 10 кручкоў.

Згодна з пунктам 99 Правіл вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ў Рэспубліцы Беларусь у рыбалоўных угоддзях дазваляецца аматарскае рыбалоўства ўсіх відаў рыбы, за выключэннем вугра і відаў рыбы, у дачыненні да якіх у адпаведнасці з заканадаўствам устаноўлены абмежаванні і забароны.

У выпадку вылаўлівання рыбы, ракаў або міногаў, якія адносяцца да відаў, уключаных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь, а таксама вугра, такая рыба павінна быць выпушчана ў рыбалоўныя ўгоддзі ў жывым выглядзе. За незаконны вылаў рыб, уключаных у Чырвоную кнігу, прадугледжана адміністрацыйная адказнасць (штраф да 50 базавых велічынь) і крымінальная адказнасць (да 6 гадоў пазбаўлення волі).

Пры аматарскім рыбалоўстве дазваляецца вылаў рыбы, якая не дасягнула прамысловай меры, па норме не больш за 20 працэнтаў ад колькасці вылаўленай рыбы кожнага з відаў, для якога ўстаноўлена прамысловая мера.

Так, прамысловая мера на:

■ шчупака складае 40 см (вымяраецца ад галавы да пачатку хваста);
■ ліня – 22 см;
■ язя – 25 см;
■ жэраха – 34 см;
■ судака – 40 см;
■ сама – 70 см;
■ галаўня – 25 см;
■ мянтуза – 36 см.

Рыбаловам дазваляецца выкарыстоўваць для аматарскага рыбалоўства нахлыстовыя, паплавочныя і донныя вуды ўсіх сістэм, спінінгі, кружкі, дарожкі, жэрліцы, стрэльбы і пісталеты для падводнага палявання, падхватнікі і пад'ёмныя сеткі для лоўлі рыбы, якая выкарыстоўваецца ў якасці прынады (дыяметр сачка 0,5 метра з ячэйкай менш за 10 міліметраў ці пад'ёмную сетку памерам 1х1 метр і ячэйкай менш за 1 мм).

На аднаго рыбалова ў суткі дапускаецца вылаў не больш за 5 кг рыбы, або адной рыбіны, вага якой перавышае 5 кг.

**На лоўлю асобных відаў рыбы ўсталёўваюцца забароны:**

**- сама звычайнага: з 31 траўня па 1 ліпеня, з 1 лістапада па 31 сакавіка.**

Нягледзячы на строгія правілы рыбалоўства, вясновыя абмежаванні і забароны, штотыдзень знаходзяцца грамадзяне, якія дапускаюць парушэнні Правілаў рыбалоўства.

Так, 30 траўня каля 18 гадзін супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі на возеры Белае паблізу г. Глыбокае затрыманы жыхар г. Мінска, які выкарыстаў плаўсродкі. У дачыненні да парушальніка складзены адміністрацыйны пратакол і вынесены штраф.

Увечары каля 20 гадзін 26 траўня ў ходзе правядзення рэйдавых мерапрыемстваў на тэрыторыі Пастаўскага раёна на рацэ Лучайка паблізу в. Кураполле супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі затрыманыя двое жыхароў г. Паставы, якія ажыццяўлялі здабычу рыбы забароненымі прыладамі рыбалоўства – брадніком. Парушальнікі паспелі здабыць 109 асобін розных відаў рыбы. Шкода, прычыненая прыродзе, склала больш за 70 млн. рублёў. Матэрыялы накіраваны ў следчыя органы Пастаўскага раёна для дачы прававой ацэнкі, максімальнае пакаранне за дадзенае браканьерства – да 6 гадоў пазбаўлення волі.

**Аб усіх фактах браканьерства просім Вас паведамляць у Глыбоцкую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету па тэлефонах: 8-02156- -2-86-70 або 2-80-30, мабільныя: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49 (МТС).**

# 32 тысячы жыхароў Віцебшчыны ўнесены ў спісы «дармаедаў»

**Падатковыя органы вобласці звяраюць даходы і выдаткі фізічных асоб і выяўляюць факты незадэклараваных паступленняў.**

У выніку з пачатку года жыхарам рэгіёну прад'яўлена да выплаты 3 млрд рублёў падаходнага падатку, пішуць «Віцебскія весці».

За 4 месяцы 2015-га дэкларацыі аб даходах і маёмасці запатрабаваны ў 1,6 тысячы чалавек, паведаміў першы намеснік начальніка інспекцыі МПЗ па Віцебскай вобласці Валерый Лабацэвіч.

У адпаведнасці з патрабаваннямі Дэкрэта №3 «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства» асаблівая ўвага ў гэтым годзе надаецца кантролю за даходамі грамадзян, якія не ўдзельнічаюць у фінансаванні дзяржвыдаткаў. У сувязі з гэтым у рэгіёне фармуецца адмысловы рэестр працаздольных грамадзян, якія не маюць афіцыйных крыніц грашовых сродкаў у Беларусі.

– На сённяшні дзень рэестр змяшчае звесткі аб 32 тысячах жыхарах вобласці, – удакладніў Валерый Лабацэвіч. – Больш за ўсё іх у Віцебску (7,5 тысячы) і Полацку (4,9 тысячы). Амаль у тысячы выпатрабаваны дэкларацыі аб даходах і маёмасці. Па выніках праверкі прыкладна 140 грамадзянам прад'яўлены да выплаты падаходны падатак у суме 1 млрд рублёў.

*charter97.org*




# У Віцебску спынена дзейнасць чарговай наркалабараторыі

**Супрацоўнікамі ўпраўлення па наркакантролі і процідзеянні гандлю людзьмі УУС Віцебскага аблвыканкама сумесна з калегамі з Кастрычніцкага райаддзела Віцебска 28 чэрвеня ў ходзе правядзення аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў па спыненні канала пастаўкі наркатычных сродкаў і псіхатропных рэчываў з тэрыторыі Расіі быў затрыманы раней судзімы жыхар абласнога цэнтра 1989 года нараджэння, які нідзе не працуе. У яго знойдзена 0,8 г гашышу.**

■ **Вячаслаў Будкевіч**, *БелаПАН*

Як паведамляе УУС Віцебскага аблвыканкама, пры далейшым вобыску на здымнай кватэры было знойдзена каля 25 г гашышу, 15 г амфетаміну, 4 г марыхуаны, а таксама спецыяльнае лабараторнае абсталяванне (колбы, змеевікі, кранштэйны, кампрэсарныя помпы для стварэння вакууму, пластмасавыя і шкляныя ёмістасці, лейкі, імпульсныя і электронныя шалі, сістэма вентыляцыі і абагрэву, рэспіратары і інш.) і прэкурсоры (ацэтон, бром, саляная кіслата, метыламін, бензол, серная кіслата), прызначаныя для вырабу псіхатропных рэчываў.

Па гэтым факце праводзіцца праверка.

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 8 чэрвеня



**06.00** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.05** Новости экономики.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Новости.
**08.05** Новости экономики.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Доброе утро, Беларусь!
**08.35** Слово Митрополита Павла на начало Петровского поста.
**08.45** Выпускныя экзамены па беларускай і рускай мовах, па матэ-матыцы за перыяд навучання і выха-вання на III ступені агульнай сярэдняй адукацыі.
**09.00** Новости.
**09.10** Главный эфир.
**10.05** **«Идеальный брак»** (Россия).
**11.00** 90 секунд.
**11.05** **«Летом я предпочитаю свадьбу»** (Россия).
**12.00** Новости.
**13.00** 90 секунд.
**13.15** Остросюжетная мелодрама **«Наследница»** (Россия). 1-я и 2-я серии.
**15.00** Новости.
**15.15** Новости региона.
**15.25** Мелодрама **«Наследница»** (Россия). 3-я и 4-я серии.
**16.00** 90 секунд.
**17.35** Белорусское времечко.
**18.40** Новости региона.
**19.00** Новости.
**19.20** Арена.
**19.40** Зона Х.
**20.00** **«На край света»**. 1-я серия.
**21.00** Панорама.
**21.45** Форум с Дмитрием Бочковым.
**22.45** **«След»**
**00.15** Зона Х.
**00.35** Новости.
**00.50** День спорта.
**01.05«Игра в правду»**



**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Фазенда».
**11.55** «Модный приговор».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Мужское/Женское».
**14.10** «Наедине со всеми».
**15.05** «Время покажет».
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** «Время покажет».
**16.50** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20**«Республика» Павлово». Крестьянская утопия».
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Дело принципа».
**22.15** «Танцуй!».
**00.45** «Вечерний Ургант».
**01.20** Ночные новости.



**07.00** Телеутро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** **«Метод Фрейда 2»**
**10.05** Телебарометр.
**10.35** Азбука вкуса.
**11.10** Научное шоу профессора Открывашкина.
**11.35** Анимационный фильм **«Сезон охоты-3»** (США).
**13.20** **«Мария Верн: тайна мертвых птиц»** (Швеция). 1-я - 4-я серии.
**16.50** **«Метод Фрейда 2»**
**17.55** **«Смерть в раю»**
**18.55** **«Универ. Новая общага»**
**20.00** **«Не родись красивой»**
**20.55** Реальный мир.
**21.30** Телебарометр.
**21.35** КЕНО.
**21.40** «Экстрасенсы-детективы».
**22.35** **«Кости»** (США).
**23.30** **«Как я встретил вашу маму»**
**23.55** **«Быть человеком»** Великобритания.
**00.55** **«Смерть в раю»**



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.25** «Большой завтрак»
**10.05** «Дальние родственники».
**10.30** «24 часа».
**10.40** **«Солдаты 5»**. Сериал.
**11.35** «Семейные драмы».
**12.30** «Не ври мне!».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Любовь 911».
**14.45** «Код Дарвина: Проклятие обезьян».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Большой город».
**17.25** «Минщина».
**17.35** «Званый ужин».
**18.35** «Вселенная».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ спорт».
**20.15** «Военная тайна».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ спорт».
**23.00**«Неделя спорта».
**23.30** «Кино»: **«Город жизни и смерти»**.



**07.00** **Каханне ля поплаву**,
**07.45** **Mad Men. Утрапёныя IV**
**08.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**09.00** Эпоха Барадуліна, д/ф
**09.55** Каханне па-беларуску, д/ф
**10.25** Назад у будучыню**.** Старажытны Полацак
**10.35** Гісторыя пад знакам Пагоні
**10.45** Загадкі беларускай гісторыі**.** Падземнае Берасце
**11.00** Мова нанова**.** Музыка
**11.15** Беларусы ў Польшчы
**11.35** **Цырульніца**, м/ф
**16.00** **Mad Men. Утрапёныя IV**,
**16.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**17.10** Пошук Мазэпы, д/ф
**18.00** Чачэнія**.** адваротны бок фасаду, д/ф
**18.30** Размовы эксперта
**18.45** Побач з намі
**19.05** Назад у будучыню
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19.25** НКВД – гестапа. Браты па крыві, д/ф
**20.00** Студыя «Белсат»
**21.00** Аб’ектыў
**21.25** 54 %
**21.45** Лебэнсборн**.** Гадавальнікі Трэцяга Райху, д/ф
**22.40** **Школа плоцi**, м/ф
**00.20** Студыя «Белсат»

ПАНЯДЗЕЛАК, 8 чэрвеня

